

**21 снежня споўнілася 60 год са дня нараджэння геніяльнага правадыра народаў таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.**

**Усе дзеці Совецкай Беларусі ад шчырага сэрца вітаюць любімага друга і настаўніка працоўных усяго свету.**

## УКАЗ

**Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР**
**Аб прысваенні таварышу Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну звання Героя соцыялістычнай працы**

За выключныя заслугі ў справе арганізацыі большэвіцкай партыі, стварэння Совецкай дзяржавы, пабудовы соцыялістычнага грамадства ў СССР і ўмацавання дружбы паміж народамі Совецкага Саюза—прысвоіць таварышу Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, у дзень яго шасцідзесяцігоддзя,—званне Героя соцыялістычнай працы з уручэннем вышэйшай узнагароды—ордэна Леніна.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР
М. КАЛІНІН.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР
А. ГОРКІН.

Масква, Крэмль.
20 снежня 1939



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Снежань 1939 г. № 12



# Родны і любімы Сталін

21 снежня ўвесь совецкі народ, працоўныя ўсяго свету адзначаюць слаўнае 60-годдзе з дня нараджэння вялікага правадыра народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

З усіх канцоў зямнога шара ад мільёнаў людзей у Маскву, у Крэмль, нясуцца палкія прывітанні. Усё перадавое чалавецтва вітае правадыра і жадае яму доўгіх год жыцця і здароўя.

Сталін—радасць і шчасце ўсіх працоўных. Усё яго жыццё—ёсць барацьба за шчасце народа. І ўсё, што заваявана і створана совецкім народам, звязана з іменем таварыша Сталіна.

З самых юных год таварыш Сталін прысвяціў сябе вялікай барацьбе за вызваленне рабочага класа. Разам з Леніным ён стварыў слаўную партыю большэвікоў. Разам з Леніным ён арганізаваў гераічную барацьбу працоўных супроць эксплаатацыі. Разам з Леніным ён стварыў новую дзяржаву рабочых і сялян, дзяржаву без памешчыкаў і капіталістаў.

Дзякуючы мудраму кіраўніцтву і клопатам таварыша Сталіна совецкі народ пабудаваў цудоўнае жыццё, жыццё свабоднае, радаснае і шчаслівае. Выраслі новыя людзі, развіліся яркія народныя таланты. Пышным цветам расквітнелі навука і мастацтва. Бацькоўскімі клопатамі Сталіна створана шчаслівае дзяцінства совецкіх дзяцей. Клопатамі Сталіна ўся краіна стала вялікай і магутнай.

Усё жыццё совецкага народа звязана з іменем Сталіна. З іменем Сталіна робяцца ўсе выдатныя пачынанні, дасягаюцца ўсе перамогі. Там, дзе Сталін—там перамога. З думкамі аб Сталіне совецкія людзі робяць на карысць сваёй радзімы любыя подвігі, паказваюць нябачаныя прыклады смеласці, мужнасці і бясстрашша.

З дарагім іменем Сталіна мужныя папанінцы дрэйфавалі ў суровых ільдах Арктыкі. З іменем Сталіна бясстрашныя хасанаўцы з чэсцю абаранялі совецкую зямлю ад ворагаў. З іменем Сталіна ішлі байцы Чырвонай Арміі вызваляць працоўных Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. На фабрыках і заводах, у калгасах і соўгасах, школах і лабараторыях—усюды совецкі чалавек з іменем Сталіна горда і радасна творыць для шчасця народа. Кожны працоўны ў сваім сэрцы носіць блізкае і дарагое слова „Сталін". З гэтым словам ён неразлучан ні ў мінуту радасці і перамог, ні ў мінуту гора і няўдач. Яно заўсёды яго падтрымлівае, дапамагае, заве ўперад.

Сталін—вялікі тварэц чалавечага шчасця. Яго непахісная воля, яго геніяльны розум накіраваны ўвесь час на павелічэнне шчасця народа, на ўсё новыя і новыя заваёвы комунізма.

Таму так горача любяць таварыша Сталіна працоўныя Совецкага Саюза, працоўныя ўсяго свету. Яны выражаюць яму сваю шчырую ўдзячнасць, сваю любоў, сваю бязмежную адданасць. Такія-ж благародныя пачуцці выказваюць свайму лепшаму другу і настаўніку Іосіфу Вісарыёнавічу совецкія дзеці.

Разам з усім совецкім народам шчаслівыя дзеці краіны соцыялізма шлюць любімаму Сталіну свае палкія прывітанні і жадаюць яму доўгіх-доўгіх год жыцця!







І. В. Сталін у Ілы Чавчавадзе ў рэдакцыі „Іверыя“, 1895 г. Фота з карціны мастака Уча Джапарыдзе.



Таварыш Сталін гаворыць прамову на пахаванні А. Цулукідзе.



На здымку карціна мастака Ш. Макашвілі „Таварыш Сталін у камеры Баілаўскай турмы (Баку 1910 г.) звяртаецца да накіроўваемых у Сібір палітзняволеных: „беражыце кайданы, яны нам спатрэбяцца для царскага ўрада“.

# Сталіну

Янка Купала

Яркай зімою, шумлівым прадвеснем,
У ясныя ночкі, ў заранкі
Песню ўсім сэрцам складаем аб песні,
аб Сталіне песні-вяснянкі.

Песні-вяснянкі ў далёкія далі
Лунаюць у кожнай прыгодзе,
Сонейка, зоркі цябе ўзгадавалі
На радасць людзей і стагоддзяў.

Выспіў ты волю і долю народам,
Вярнуў чалавечую славу, —
Сэрца, вялікае сэрца заўсёды
Вялікія творыць праявы.

Мудрыя пішаш для свету законы,
Для шчасця ад края да края,
Воляй бязмернай гадуеш мільёны,
Да сонца шляхі вымяраеш.

Імя тваё ўспамінае ўрачыста
Хлапчук, які лётаць наважыў;
Кветкі збіраючы ў лузе квяцістым,
Дзяўчынка вянок табе вяжа.

З імем шчаслівым тваім у Хасане
Байцы самураяў тапілі,
Лёталі гордыя за акіяны
Советаў арліныя крыллі.

Думкаю, песняй тваё імя славіць
Народ беларускі свабодны,
За беларускую нашу дзяржаву,
Якую стварыў ты нам, родны!

Яркай зімою, шумлівым прадвеснем,
У ясныя ночкі, ў заранкі
Песню ўсім сэрцам складаем аб песні,
Аб Сталіне песні-вяснянкі.

10/VI. 1939 г.





Г. Байдукоў

# У ГАСЦЯХ У СТАЛІНА

## Сустрэча

Пасля вялікага і цяжкага пералёту па Сталінскаму маршруту Валерый Чкалаў, Саша Белякоў і я атрымалі водпуск. Мы паехалі адпачываць на Каўказ. З намі былі жонкі і дзеці. Усе размясціліся на адной дачы. Кожны дзень мы купаліся ў моры, загаралі на сонцы, ігралі ў тэніс.

Аднойчы, калі ўсе мы сядзелі за сталом і снедалі, пачуўся тэлефонны званок. Выклікалі Чкалава. Ён вышаў у карыдор Неўзабаве ён паклікаў і мяне.

Валерый быў усхваляван.

— Слухай, Георгій, таварыш Сталін сёння ў чатыры гадзіны запрашае нас з жонкамі да сябе на дачу,—сказаў ціха Чкалаў.

Я не паверыў.

— Ты што з раніцы пачынаеш выдумваць?

І я хацеў пайсці ўжо назад, але па выражэнню вачэй і неспакойных рухах рук Чкалава я зразумеў, што ён не жартуе. Ды ці можна так жартаваць?

І мяне таксама ахапіла радасць. Ад шчасця сэрца застукала мацней.

— Так, так, Георгій! Роўна ў чатыры гадзіны—да таварыша Сталіна!—І Чкалаў пацягнуў мяне ў сталовую.

Мы падзяліліся сваёй радасцю з Сашам Беляковым і з жонкамі.

Не апісаць іх здзіўленых і ззяючых твараў! Яны перапытвалі па дзесяць разоў кожнае слова, сказанае па тэлефону.

Усе спяшаліся хутчэй закончыць свае справы: хто пайшоў да цырульніка пабрыцца, хто пачаў адгладжваць плацце.

Вельмі часта мы глядзелі на гадзіннік, хоць ведалі, што часу аставалася яшчэ многа. Але нам хацелася хутчэй убачыць гэтага цудоўнага чалавека, блізкага нам друга.

Нарэшце стрэлка гадзінніка дабралася да паловы чацвертай. Усе былі гатовы.

І вось мы імчымся на аўтамабілі ў госці да Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна...



Уперадзе нас ехаў Міхаіл Іванавіч Калінін. Да невялікай двухпавярховай дачы, акружанай зелянінаю, мы пад'ехалі амаль адначасова.

Таварыш Сталін разам з Ждановым чакалі нас на вуліцы, ля ўвахода ў дом. Сталін, гасцінна вітаючыся, уважліва агледаў кожнага. Напэўна, ён правяраў, як мы паправіліся на курорце.

Адзеты ён, як заўсёды, проста і скромна: шэры лёгкі фрэнч з чатырма кішэнямі і гузікамі ў адзін рад пасярэдзіне, лёгкія штаны-шаравары і мяккія каўказскія боцікі, густыя валасы паблісківаюць на сонцы сівізной. Твар у Сталіна свяжэйшы. Відаць, што ён крыху адпачыў.

Іосіф Вісарыёнавіч знаёміцца з нашымі жонкамі. Распытвае, як мы адпачылі. Яго прастата і скромнасць адразу прыцягваюць да яго ўсіх гасцей.

Сталін вядзе нас па алеях і па дарозе расказвае пра сваю дачу, паказвае нам кожны куст і дрэва, якіх тут так многа. Відаць, Сталін вельмі любіць фруктовыя дрэвы. Падышлі да лімоннага куста.

Іосіф Вісарыёнавіч клапатліва паправіў бамбуковую палачку, каб лягчэй было галінкам утрымліваць буйныя жоўтыя плады. А многія-ж думалі, што тут не вырастуць лімоны! Сталін сам пасадзіў першыя кусты, сам даглядаў іх. І цяпер ён пераканаў сваім прыкладам многіх садаводаў.

Ён расказвае пра гэта задорным голасам і часта жартуе над гора-садаводамі.

Падышлі да вялікага дрэва. Я яго зусім не ведаю.

— Як завецца гэтае дрэва? — запытаў я ў Сталіна.

— О, гэта цудоўная расліна! Завецца яна эўкаліпт, — сказаў Іосіф Вісарыёнавіч, зрываючы лісты з дрэва.

Ён расцірае лісты на руцэ і кожнаму дае панюхаць.

— Адчуваеце, які моцны пах? Вось гэтага паху не церпіць малярыйны камар.

Іосіф Вісарыёнавіч расказвае, як пры дапамозе эўкаліпта амерыканцы збаўляліся ад камара ў час пабудовы Панамскага канала, як той-жа эўкаліпт дапамог пры работах у балоцістай Аўстраліі.

Мне стала вельмі няёмка, што я не ведаў гэтага цудоўнага дрэва.

Так, гутарачы, мы непрыкметна абышлі ўвесь сад.

Затым наш гасцінны гаспадар прапанаваў агледзець дом.

— Ідзіце ва ўсе пакоі і глядзіце не сорамячыся.

Дома мы не заўважылі нічога лішняга, ніякай роскашы. Тут усё вельмі проста, скромна і чыста.

Па дарозе ў сталовую Сталін адкрыў шторы на вокнах і запытаў, ці гатовы абед.

Затым мы зноў вышлі ў сад.

Жданаў моцна закашляўся. Яго кашаль падобны на кашаль лётчыка Чкалава. Я сказаў аб гэтым уголас, дадаўшы, што лётчыкі заўсёды кашляюць ад прастуды.

Іосіф Вісарыёнавіч крыху раззлаваным голасам пачаў гаварыць, што заводы і канструктары яшчэ дрэнна клапоцяцца аб лётчыках, не абграваюць добра кабіны самалётаў. Тут-жа ён пажурыў і нас, лётчыкаў, за тое, што мы не патрабуем добрых умоў для работы, і за тое, што ў момант небяспекі не заўсёды выпрыгваем з парашутам.

— Лепш пагубіць самалёт, чым губіць лётчыка! Машын мы можам зрабіць многа, а вось смерць чалавека — справа непапраўная, — сказаў Сталін.

Падышлі да веранды, на якой былі расстаўлены кеглі. Іосіф Вісарыёнавіч прапанаваў паіграць у кеглі. Ён сам першы ўзяў цяжкі драўляны шар і, спрытна размахнуўшыся, пусціў яго з рукі па дошцы. Ён збіў стаяўшыя пасярэдзіне кеглі — караля і некалькіх салдат. Потым пачаў іграць Белякоў. Саша доўга пускаў шары, пакуль

навучыўся дакатваць іх да месца прызначэння. Мы ўвесь час над ім жартавалі.

Калі ўсе нагуляліся ўволю, Сталін параіўся з гасцямі: ці не час абедаць? Мы згадзіліся. Ён павёў нас к сталу. За абедам усе трымалі сябе свабодна і весела—такі ветлівы быў Іосіф Вісарыёнавіч. Я адчуваў сябе, як на вялікім вясёлым сваце.

Пасля абеда Чкалаў, Белякоў і я расказалі таварышу Сталіну пра план пералёту праз Паўночны полюс. Іосіф Вісарыёнавіч даказваў нам, што мы яшчэ мала ведаем аб полюсе.

— Спачатку трэба пабудаваць станцыю на полюсе і вывучыць там надвор'е. А вам трэба добра падрыхтавацца. У гэтай справе на „авось" ды „нябось" разлічваць нельга. Трэба ўсё рабіць напэўна,—даказаў нам Сталін.

І мы паслухаліся яго парады.

## Расказ Сталіна

Сталін доўга і з захапленнем гаварыў аб савецкіх лётчыках.

А мы стараліся завесці гутарку пра мінулае.

Іосіф Вісарыёнавіч расказаў нам, як многа год таму назад царскія жандармы заслалі яго ў ссылку ў Сібір. Ён уцёк адтуль.

Суровай зімой Сталін прабіраўся праз сібірскую тайгу. Калі ён ішоў па замерзшай рацэ Енісею, то ледзь не загінуў. Па сярэдзіне ракі ён раптам праваліўся пад лёд. Аказваецца, у ільду была палонка, якой ён не заўважыў. Але спрытнасць і сіла дапамаглі яму ўхапіцца за край палонкі. Ледзяная вада прамачыла наскрозь усё адзенне. Сталін быстра вылез на лёд. Моцны сібірскі мароз адразу накінуўся на прамокшае адзенне. Усё закамянела і ператварылася ў лёд. Твар пакрыўся ледзяністым інеем. Жанчыны-сялянкі, ішоўшыя па ваду на рэчку, убачыўшы белую ледзяную фігуру, якая рухалася, са страху кінулі вёдры і каромыслы і з крыкамі ўцяклі ў вёску. Цяжка было пазнаць у гэтай фігуры чалавека.

Сталін ведаў, што калі цяпер не адагрэецца ў цёплым месцы, то напэўна загіне. Ён паспяшаўся ў вёску. Але і там спалоханыя сяляне не пускалі яго ў хаты. Доўга прышлося ўгаварваць і даказваць, што ён





сапраўдны чалавек, а не якая-небудзь здань. Нарэшце, дзверы адной хацінкі адчыніліся, і Сталін, змучаны, пачаў сушыць сваё адзенне і саграваць акачанеўшае цела.

Трэба было мець багатырскую сілу і здароўе, каб астацца жывым пасля такога выпадку. Толькі моцны арганізм выратаваў тады Сталіна ад смерці.

Сталін расказваў спакойна, нібы гэта здарылася не з ім. А мы былі так захоплены расказам, што, самі таго не заўважаючы, прысунуліся да яго ўшчыльную, заглядваючы ў яго вясёлыя вочы.

І кожны з нас дзівіўся: чаму да гэтага часу пісьменнікі не напішуць аб гэтым.

Потым Іосіф Вісарыёнавіч успомніў, як ён яшчэ раз уцякаў з ссылкі. Яму папаўся вясёлы возчык, які часта спыняўся ў дарозе і грэўся вiном. Сталін частаваў возчыка на стаянках, і яны паступова ад'язджалі ўсё далей і далей... Развітваючыся, возчык усё гаварыў Сталіну:

— Добры ты чалавек! Адкуль ты такі, хлопец?!

Сталін задорна смяецца. Ён так расказвае, што ўсе мы ад душы гучна смяемся разам з ім, успамінаючы вясёлага возчыка.

Возчык, вядома, не ведаў, што ён вёз Сталіна, які спяшаўся да Леніна, да рабочых Расіі, да сваёй партыі...

## Увечары

За сталом сядзелі доўга. Потым усе пайшлі ў суседні пакой. На палічках канапы стаяць фатаграфіі дзяцей Іосіфа Вісарыёнавіча. Ён з вялікай пяшчотнасцю гаворыць аб дачцы Светлане. Яна даўно паехала ў Маскву. У яе пачаліся заняткі ў школе.

— Яна ў мяне дысцыплінаваная: раз пачаліся заняткі, значыць трэба вучыцца!— сказаў Іосіф Вісарыёнавіч і беражна паставіў картачку на месца.

Мы пачалі прасіць, каб ён даў нам на памяць картачкі, дзе ён сфатаграфіраван разам з рэбятамі.

Сталін, напэўна, падумаў: што рабіць з такімі напорыстымі гасцямі. Ён узяў тры картачкі і адклаў, каб потым завярнуць іх для нас.

Цяпер я часта гляджу на картачку, бачу Сталіна з дачкой і сынам і з пяшчотнасцю ўспамінаю аб выдатным дні свайго жыцця.

Потым Іосіф Вісарыёнавіч папрасіў моладзь патанцаваць. Ён сам выбраў пласцінку, завёў патэфон і паставіў плясавую.

Калі ўсе натанцаваліся, Сталін, які ўсё яшчэ не адыходзіў ад патэфона, выбраў пласцінку з харавой волжскай песняй. Ён сам пачаў падпяваць, і мы за ім хорам заспявалі працяжную рускую песню.

Сталін, відаць, у Сібіры навучыўся спяваць і вельмі ладна падцягваў запяваўшаму Жданаву.

Так мы дружна спявалі-б яшчэ і яшчэ, калі-б не надышоў час ад'язджаць Калініну.

Пасля ад'езду Міхаіла Іванавіча Чкалаў лёг адпачыць на канапе і моцна заснуў.

Іосіф Вісарыёнавіч прынёс коўдру, клапатліва пакрыў заснуўшага Валерыя і зноў пачаў нас забаўляць вясёлымі пласцінкамі патэфона.

У поўнач усе адправіліся на більярд. Спачатку ігралі ўчацвярых, а затым таварыш Сталін прапанаваў мне сыграць удвух.

Час ішоў непрыкметна. Калі я паглядзеў на гадзіннік, было каля паловы другой ночы...

Як не хацелася ехаць ад гэтага цудоўнага чалавека! Але яму-ж, больш чым каму-б там ні было, трэба адпачываць. Я ведаю, што хоць ён і на адпачынку, а ўсё роўна заўтра раніцой будзе працаваць.

Мы развіталіся з таварышом Сталіным і паехалі да сябе на дачу, захаваўшы на ўсё жыццё цудоўны вобраз простага, гасціннага чалавека, любімага ўсім народам правадыра і настаўніка.



Ільля Сіхарулідзе

# Лалі ў Маскву збіраецца

На сцяне вісіць партрэт прад Лалі.
Лалі знае, — гэта дзядзя Сталін.
Сэрца у дзяўчынкі моцна б'ецца,
Дзядзя на яе глядзіць, здаецца.
Адыйсці яна ад сценкі хоча,
Дзядзя ўслед свае паводзіць вочы.
Адыйшла яна за табурэтак,
Дзядзя Сталін зноў глядзіць з партрэта.
Вельмі дзівіцца дзяўчынка Лалі,
Што за ёю назірае Сталін.
Ляльку Лалі ў табурэцік садзіць,
Надта-ж хочацца пабачыць дзядзю.
Спадабаўся той партрэт Лалі,
На якім вясёлы дзядзя Сталін
На руках дзяўчынку ўсё трымае,
Лалі-ж і сама яшчэ малая.
Кажа Лалі свайму брату Ўладзю:
„Вельмі добры на партрэце дзядзя:
Я ў Маскву з сваім паеду татам,
Чурчхелы вазьму з сабой багата.
Я тады пайду на рукі к дзядзю,
На канапу разам з дзядзем сяду,
Песні ўсе яму я праспяваю,
Раскажу ўсе вершы, што я знаю.
А пабачу дзядзіну Светлану,
Яблык ёй з кашолкі я дастану.
Танцаваць, спяваць я з ёю буду,
А дурэць ніколі больш не буду“, —
Думае так жартаўніца Лалі,
А вачэй з яе не зводзіць Сталін.
І каб дзядзю Сталіна угледзіць
Лалі з татам у Маскву паедзе.

Пераклаў А. Астрэйка.



# Прыяцелі

Анна Хахуташвілі

Рысункі К. ГЕДДА

Школьныя таварышы Валіко Касрадзе, Сосо Ірэмашвілі, Сосо Джугашвілі, Хіхашвілі і Гіго Касрадзе з Царскай вуліцы павярнулі на Тыфліскую вуліцу, а адтуль яшчэ правей да царквы св. Тройцы.

Прайшоўшы міма гарадскога двухкласнага вучылішча, хлопчыкі вышлі вузенькім завулкам к дому Тваліашвілі. Яны спыніліся каля плятня з галля, на якім яшчэ ўцалела ліства.

— Вось, бічэбо, здаецца тут, — сказаў Сосо Джугашвілі.

Хлопчык спрытна разгарнуў ліству і выцягнуў адтуль каробку трохкапеечных папярос. Валіко Касрадзе занёс руку ў кішэню, дастаў сярнікі і чыркнуў. Пяць папярос задыміліся зігзагамі.

Галубавокі Гіго Касрадзе пасля другой зацяжкі пачырванеў, увесь уздрыгнуў і пачаў кашляць. Потым прыкра плюнуў і вылаяўся:

— Хай будзе пракляты той, хто такую гаркату выдумаў. Цьфу!

Дзеці зарагаталі, працягваючы курыць. Шчырэй за ўсіх зацягваўся маленькі чарнявы Сосо Ірэмашвілі.

— Ну, што, мышанё, вельмі табе па густу? — спытаў яго Валіко Касрадзе з жартлівай ухмылкай і паціху стукнуў па галаве, ссунуўшы яму шапку з крывым казырком на бок. А сам пачаў азірацца навокал, баючыся, каб курцоў не засталі знянацку. Але ў глухім кутку горада Горы не відаць было ні душы. Хлопчыкі курылі папяросы і, калі збіраліся адыходзіць, Сосо Джугашвілі ўздумаў схаваць папяросы на старым месцы.

— Стой, братка, куды ты? — Схапіў Хіхашвілі яго за руку, — тут, дарагі мой, або дожджык замоча, або хто-небудзь выцягне. Прапалі мы тады зусім. А ну давай іх, няхай наша дабро хаваецца пры нас, — сказаў Хіхашвілі і, вырваўшы з рук Джугашвілі каробку, шпарка запхнуў яе сабе ў кішэню.

Адсюль хлапчукі павярнулі на Оконскую вуліцу. Яны былі вельмі рады, што курэннем папярос сталі падобнымі на дарослых.



Хлапчукі ішлі, весела балбочучы. Раптам спыніліся: насустрач да іх імчаліся два фаэтоны, упрыгожаныя зялёным веццем. Коні пазваньвалі бразгушкамі. У пярэднім фаэтоне чынна ляжаў вялізны бурдзюк, напоўнены віном. У другім, ссунуўшы шапку набок і расшпіліўшы касаваротку, заліхвацкі шарманшчык круціў шарманку. Побач з ім п'яны мужчына, хістаючыся з боку на бок, з памутнелымі вачамі, ахрыплым голасам



крычаў песню на матыў „Сона-Баджы". Калі п'яныя праімчаліся міма дзяцей, Валіко Касрадзе зарагатаў і, пляснуўшы ў далоні, крыкнуў:

— Ды гэта-ж Вартан Татунашвілі. Глядзіце на яго, які ён смешны?!

Дзеці паглядзелі ўслед фаэтонам і заразжа ўсе моцна зарагаталі: Вартан, змясціўшыся на задняй восі фаэтона, развязна падпяваў, адчуваючы сябе ўдзельнікам п'янай кампаніі. Убачыўшы таварыша аднакласніка ў смешным стане, дзеці гучна закрычалі яму ўслед, а Джугашвілі выступіў уперад і злосна крыкнуў на яго. Вартан, пачуўшы голас Сосо, зляцеў з свайго месца. Адчуваючы няёмкасць, хлопчык з нясмелай усмешкай падышоў да таварышоў.

— Ну, і малайчына-ж ты, Вартан. На здароўе табе, браце, пагулянка! — пачуліся насмешлівыя прывітанні.

Сосо Джугашвілі сурова зірнуў Вартану ў вочы:

— І не сорамна табе?! Чаму ўчора не прышоў да мяне?

— Так, брат, ты многа прагуляў, — умяшаўся ў гутарку Хіхашвілі. — Учора ў Сосо ведаеш, як вывучылі ўрок грэчаскай мовы? Вось гэта мышанё тоўстую адзінку сёння на тройку пераправіў.

— Так, так, верна, — з радасцю пацвердзіў Сосо Ірэмашвілі. — З цябе ростам тройку настаўнік мне паставіў.

— Дык ведай, Вартан, цябе з школы

абавязкова зволяць, калі даведаюцца аб тваіх паводзінах. Бяссорамны, хаця-б матку пашкадаваў, — сказаў Джугашвілі, пагладаючы проста яму ў вочы. — Заўтра абавязкова прыдзеш да мяне!

— Дарэчы, бацька сёння некуды збіраецца ехаць, — сказаў Вартан у задуменні. — У хаце будзе спакайней, а там пабачым, можа быць і прыду.



— Мы-ж ужо ўмаўляліся з табой пасля абеда, прычым тут бацька. Эх, гультай, сам вінаваты ва ўсім, а на другіх складаеш...

Сосо загарачыўся. Гарачку гэту ўсе зразумелі і змоўклі. Вартан ішоў наводдаль ад яго, сорамна апусціўшы галаву і паціху гаварыў:

— Даю табе слова, Сосо, гэта апошні раз. З сёнешняга дня я буду слухацца цябе ва ўсім, толькі не злуй, не злуй на мяне!

Джугашвілі некаторы час маўчаў, але, прайшоўшы невялікую адлегласць, дзеці зноў развесяліліся і пачалі гутарыць яшчэ гучней. Стала весялей ім, калі, параўняўшыся з домам Худадодава, Гіго Касрадзе раптам нагнуўся на лесніцы, падняў трохрублёўку і пачаў размахваць знаходкай перад вачмі таварышоў.

— Вось дык шчасце! Малайчына Гіго! Чаго толькі не купіш на гэтыя тры рублі, жартачкі,— крычаў ад радасці Сосо Ірэмашвілі.

— Слухай, Гіго, ці не з кішэні ты выцягнуў гэтыя грошы! Я-ж побач ішоў, чаму не прыкмеціў? — з прыкрасцю крычаў Хіхашвілі, гледзячы на трохрублёўку з усіх бакоў.

Кончыўшы любавацца ёю, дзеці пачалі абмяркоўваць пытанне аб тым, што-б купіць ім на гэтыя грошы. Пасля невялікай нарады ўласнік знаходкі звярнуўся да таварышоў:

— Рэбяты, вы як сабе хочаце, а я вас запрашаю да татарына. У яго ў латарэйным коле ляжыць адзін велічэзны кусок газінакі. Усякі раз, калі я міма яе праходжу, цячэ ў мяне сліна. Будзь пракляты, ён мне ўначы нават сніцца. Хадзем, рэбяты, дабіваць яго.

Хлопчыкі закрочылі шпарчэй і праз некалькі мінут спыніліся ля латарэйнага кола. У дзяцей вочы разбягаліся: латарэя гарбаносага татарына была ўпрыгожана цукеркамі, ледзянцамі і кускамі газінакі. Яна так была зроблена, што стрэлка пры пакручванні спынялася большай часткай ля пустога месца, і татарын лёгка набіваў сабе кішэні чужымі пятакамі. А вялікі кусок газінакі, які ляжаў пасярод латарэі, з'яўляўся прынадай для дзяцей.

Хлопчыкі абкружылі латарэю і захвалявіліся.

— Давайце, я першы пакручу, я, я! — закрычаў, хвалюючыся, Валіко Касрадзе

Ён ухапіўся за стрэлку і з такой сілай ірвануў, што татарын ахнуў, перапалохаўшыся, і вочы яго ледзь не павылазілі з арбіт.

— Эй, цішэй, цішэй! — закрычаў ён, размахваючы рукамі. — Ты што, зламаць мой латарэя хочаш, так?

Стрэлка паімчалася, потым зацішыла ход і ля пустога месца павольна спынілася. Хлопчыкі засмяяліся і пакруцілі галовамі ад прыкрасці.

Сосо Джугашвілі давялося пакруціць стрэлку на восемнаццаты раз.

— А ну, асадзіце назад! — сказаў ён і закруціў стрэлкай.

Калі стрэлка пачала сцішацца, набліжаючыся да ласага куска газінакі, у хлопчыкаў у вачах засвяціўся агеньчык надзеі. Яны з нецярпеннем пасталі на цыпачкі і, выцягнуўшы шыі, у чаканні перамогі затаілі дыханне.

— Так, так, давай, давай! Яшчэ, яшчэ крыху на шчасце Сосо. Цып... цып... Ура!.. ура!.. — закрычалі дзеці ад радасці.

Стрэлка абляцела апошні круг і спынілася. Хлапчукі радасна ўскрыкнулі — вялікі кусок газінакі, урэшце, належаў ім.

— Джан, бічэба! (ура, хлопчыкі!) Зараз мы пагуляем.

— А ну, Кулодж, давай яго сюды, газінакі наш, наш!.. — крычалі дзеці.

Татарын нахмурыўся, не хацеў ён аддаваць ім выйграны ласунак, але Джугашвілі, паказваючы пальцамі на газінакі, сурова сказаў:

— Давай сюды, — зараз-жа!

Татарын, бачачы, што з ім не жартуюць, зараз-жа перадаў ім газінакі і сказаў:

— А зараз вон адсюль, не тырчыце тут.

— Ну, вядома, мы табе ўжо не патрэбны. Здзёр з нас цэлы рубель за кусок газінакі і выганяеш! Э, браце, глядзі ты! — прыгразілі хлапчукі і ўцяклі.

Дзеці падзялілі газінакі паміж сабою і шпарка з'елі. Аблізаўшы пад канец пальцы, вярнуліся да невырашанай задачы: што-б купіць ім на рэшту грошай? Адзін захацеў вялікі мяч, другі пераводныя карцінкі, а Валіко Касрадзе ўсё сцвярджаў:

— Слухайце, гуляць, дык гуляць! Давайце лепш рахатлукум купім, — гэта-ж, ой, як смачна!

— Бічэбо, паслухайце, што я вам скажу, — загаварыў маўчаўшы да гэтага часу Сосо. — Я і раней хацеў сказаць гэта, але не хацеў крыўдзіць ласуна Гогі. Ведаеце што, — пры гэтым у Сосо заблішчэлі вочы, — давайце купім на гэтыя грошы кніжкі для чытання!

— Я частку і сваіх кніжак аддам і добра будзе, калі маленькую бібліятэчку арганізуем. Дарэчы, наш букініст на днях прывёз добрыя кніжкі.

— Так, так. Я таксама бачыў, — пацвердзіў Гіго Касрадзе. — „Разбойнік Како“, вершы Акакія Цэратэлі, „Дзмітрый Самаадвяржэнец“ і нават пра кнігу Эдысона ён не забыўся.

Для Валіко Касрадзе і Ірэмашвілі непераможным жаданнем было паласавацца ўволю прысмакамі.

Яны і слухаць не хацелі аб кніжках і бібліятэчцы, але не адважваліся сказаць пра гэта. Увесь час падміргвалі адзін другому. Бачачы, што таварышы маўчаць, Джугашвілі адступіў назад і, падняўшы плечы, сказаў:

— Між іншым, я тут не пры чым. Гаспадар гэтых грошай — Гіго, хай ён сам вырашыць, як нам зрабіць.

І Сосо, нібы ўхіляючыся ад гэтай справы, адыйшоў у бок. Але на Гіго ён так зірнуў, што скромны хлопчык доўга сябе чакаць не прымусіў.

— Вядома, кніжкі лепш купіць. Але, калі яны не хочуць, хай не чытаюць, сілком прымушаць не будзем...

Дзеці гурбой пайшлі да букініста.



## КАЛІ-Б БЫЎ-БЫ Я ПАЭТАМ!

Я гляджу на твар знаёмы,
Што ўсміхаецца з партрэта...
Як яго я апісаў-бы,
Калі-б быў-бы я паэтам!

Яго вочы светам ззяюць,
Цеплынёй і шчырай ласкай,
Дзе ён гляне, расцвітае
Там вясна ў ружовых красках.

Ён глядзіць з партрэта ветла
І хавае ўсмешку ў вусы...
Колькі раз яго я бачыў,
А ніяк не нагляджуся!..

Песні я аб ім складаў-бы,
Калі-б меў вялікі талент,
Загукаў-бы ў песнях гучна:
— Хай жыве наш родны Сталін!

**Артур Зейдэль**

8 клас 25-й школы, г. Мінск.



# бабулька, бабулька...

*І. КІПНІС*

*Рысункі М. СВЯЦКАГА*

Жыла ў лесе адна бабулька, старая-старэнькая, і не было ў гэтай бабулькі нікога: ні брата, ні сястры, ні дачкі, ні сына...

Жыла гэтая бабулька з таго, што збірала ў лесе грыбы, дзікія ігрушы і ўсялякія ягады. Непадалёк ад бабулькінай хацінкі працякаў жвавы ручаёк, і бабулька брала там штодня смачную халодную вадзічку.

Любіла бабулька звярушак і звярушкі любілі яе. Ідзе, бывала, бабулька лесам, а зайчык высуне галаву з-за куста і крыкне:

— Ага, бабулька, а я цябе бачу!

А бабулька яму з любоўю:

— Ну, ну, касы.

— Адгадала,—кажа зайчык і бяжыць за ёй.

Бывала, бабулька ходзіць па лесе, а вавёрачка ўчэпіцца ніжняй лапкай за галінку і кажа:

— Бабулька, ку, ку! Бабулька, ку, ку!

А бабулька ёй у адказ:

— Ну, ну, пышнахвостка...

— Адгадала,—кажа вавёрачка і скок за ёй.

А час ідзе.

Настала позняя восень. Некаторыя звяры ўжо пачалі хавацца для зімовай спячкі.

Аднойчы ідзе шэры воўк. Бачыць воўк,



чыесьці вушкі тырчаць з-за куста. Воўк ведае, што такія вушкі бываюць толькі ў зайца.

— Добра,—парашыў воўк.—Вось гэта і будзе мне пажыва. Дарэчы, я ўжо даўненька не абедаў як належыць.

Але зайчык згледзеў воўка і давай бегчы.

Бяжыць, бяжыць, бяжыць, а воўк за ім. Паскакаў зайчык яшчэ хутчэй, а воўк за ім наўздагон.

— Як не бяжы, касы, ад мяне, воўка шэрага, не ўцячэш.

Зайчык дабег да бабулькінай хацінкі ды як запішчыць:

— Бабулька, бабулька, хутчэй адчыняй: ваўчышча вялізны пагнаўся за мной.

Адчыніла бабулька дзверы, пусціла зайчыка, а воўку яна толькі пальцам прыгразіла:

— Ну, ну, шэры!

Хоць воўк быў вялікі і злосны, але бабулькі баяўся. Ён павярнуў і, падкурчыўшы хвост, схаваўся ў лесе.

Ідзе-брыдзе воўк і раптам бачыць: з адной норкі тырчыць кароткі хвосцік. Воўк ведае, што такія хвасты бываюць толькі ў трусоў.

— Добра,—сказаў воўк сам сабе.—Зайца ўпусціў, труса знайшоў. Я і гэтым паабедаю не горш.

Але трус адчуў ворага—уцёк. Бяжыць трус, бяжыць, бяжыць, а воўк за ім. Паскакаў трус яшчэ хутчэй, а воўк яму наўздагон.

— Як не бяжы, а ад мяне, ваўка шэрага, не ўцячэш.

Трус дабег да бабулькінай хацінкі ды як заверашчыць:



— Бабулька, бабулька, хутчэй адчыняй: ваўчышча вялізны пагнаўся за мной.

Дзверы бабулькінай хацінкі адчыніліся, і бабулька, убачыўшы воўка, зноў пагразіла:

— Ну, ну, шэры!

Воўк, хоць і быў вялізны і шэры, а бабулькі баяўся. Таму ён павярнуў і, падкурчыўшы хвост, схаваўся ў лесе. А трус і зайчык асталіся жыць у бабулькі. У бабулькі

зімавала яшчэ козачка, і разам ім было весела.

Раніцой, ледзь пачне світаць, бабулька раскладае агонь у печы і пачынае гатаваць і смажыць усякія смачныя стравы. Тады зайчык адкрые адно вока, пацягне носам паветра і праз сон мармыча:

— Чым гэта так смачна пахне, а, бабулька?

А бабулька яму адказвае:

— Які ты ласун! Хадзі, ну, хадзі ўжо сюды.

Падыходзіць зайчык і атрымлівае смажаную моркаўку. Потым падбягае трус і атрымлівае кавалачак капусты, а козачка тут наогул як дома; яна атрымлівае ў бабулькі самы ласы кавалачак ва ўсякі час.

А вось ужо і развіднела. Тады бабулька ідзе да крыніцы вады набраць, а козачка, трус і зайчык просяць бабульку:

— Вазьмі і нас з сабой.

— Добра,—кажа бабулька,—мне не шкада, магу і вас узяць з сабой.

І вось ідзе бабулька з вёдрамі, а яны ўсе наперадзе скачуць. Аднойчы бабулька паклікала сваіх звярушак і кажа:

— А вы, звярушачкі-мілушачкі, не забывайцеся, ад бабулькі сваёй нікуды не аддаляйцеся і будзьце, калі ласка, паасцярожней.

— А гэта што?—падскочыў да яе зайчык.

— А вось глядзі, чые сляды параскіданы тут па беламу снегу...

Паглядзелі звярушкі і сапраўды перапалохаліся. Яны заўважылі, што сляды воўчых лап параскіданы ўсюды вакол. Перапалоханыя, яны хутчэй пайшлі з бабулькай назад.

— Ну, шкодны-ж ты, шэры воўк, не пападайся мне лепей на вочы.

Так і прайшла зіма. Прышла вясна красная. Сонейка стала ўсё больш і больш прыграваць зямлю. Занудзіліся звярушкі. Раніцой бабулька накарміла сваіх звярушак добрым снеданнем, адчыніла дзверы і сказала:

— Ну, маленькія, хто куды!

Паскакаў трус у лес шукаць сваю норку. А зайчык паскакаў сабе дом будаваць. Толькі козачка пайшла недалёка.

— Пабягу на лужочак, на зялёны муражочак, а ўвечары чакай мяне, бабулька, напэўна.

Козачка стрымала сваё слова і ўвечары прыскакала да бабулькі, і сталі яны ўдваіх жыць. Сытна і весела пажываюць і нас да сябе ў госці чакаюць.



**РЭБЯТЫ!** Прысылайце ў рэдакцыю свае рысункі. Лепшыя з іх будуць надрукаваны ў нашым журнале і прэміраваны.



Рыс. Асталовіч Валі, 7 год. г. Мінск.



Рыс. Шахоцько Барыса, 12 год, 5-а кл., 9-й шк. г. Мінск

## ШТУКІ ВАРТАВЫХ

Вось старадаўняя задача, якая мае шмат варыянтаў. Падаем адзін з іх.

Палатку вайсковага начальніка ахоўваюць вартаўнікі, размешчаныя ў 8 палатках. Спачатку ў кожнай з гэтых палатак было па 3 вартавых. Пазней вартавым дазволена было прыходзіць адзін да аднаго ў госці, і начальнік варты не спаганяў з іх за тое, калі, наведваючы палатку, заставаў у адных больш трох салдат, у другіх—менш. Ён правяраў толькі колькасць салдатаў у кожным раду палатак: калі ў трох палатках кожнага раду было 9 вартавых, начальнік лічыў, што ўсе вартавыя на месцы.

Заўважыўшы гэта, салдаты знайшлі спосаб перахітрыць начальніка. Аднойчы ўвечары 4 вартавых адлучыліся, і начальнік гэтага не заўважыў. У наступны вечар таксама без спагнання адлучыліся шасцёра. З цягам часу вартавыя пачалі нават запрашаць да сябе гасцей: аднойчы 4-х, другі раз 8-х, трэці—цэлую дзюжыну. Усе гэтыя штукі не былі заўважаны, бо ў трох палатках кожнага раду начальнік заўсёды налічваў 9 салдат.

Якім чынам рабілі гэта вартавыя?



## ЗРАБІ САМ

### ПАПЯРОВЫ ПЕНАЛ

Каб ручка, алоўкі, гумка і г. д. не валяліся ў беспарадку ў сумцы, зрабіце пенал.

Неабходны матэрыял: тры чвэрткі паперы (можна выкарыстаць вокладкі старых сшыткаў). Дзве чвэрткі пойдуць на крышкі-калпачкі, адна—на корпус.

Крышка робіцца так: чвэрткі паперы складаюцца два разы папалам. Другі згіб трэба адгарнуць назад. Затым адзін вугал загінаецца ў адзін бок, другі—у другі. Барты загінаюцца ўверх. Атрымалася папяровая каска.

Цяпер адзін вугал гэтай каскі вы загінаеце пад адзін загнуты край, а другі—пад другі. І крышка-калпачок—гатова. Іх трэба зрабіць дзве штукі.

З трэцяй чвэрткі паперы зварачваецца трубка, на абодва канцы якой надзяваюцца калпачкі.

Зрабіць такі пенал можна за 5 мінут.



Рэдактар А. В. Бяроэкін. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: Мінск, Дом Друку
Друкарня імя Сталіна. 20000 экз. Зак. 1257 $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № 34.

